Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Сувязь савецкіх органаў паміж
сабой і масамі—аснова савец-
кага будаўніцтва.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ССР.

30 чэрвеня 1927 г.

№ 12 (37)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.

# З Ь М Е С Т.

## Частка афіцыйная.

## Частка неафіцыйная.

**1. Усім акруговым выканаўчым камітэтам, Беларускай Упраўе Дзяржаўнага Страхаваньня, Народнаму Камісарыяту Земляробства, Народнаму Камісарыяту Ўнутраных Спраў і банкам.**

Пацьвярджаючы свой загад Беларускай Упраўе Дзяржаўнага Страхаваньня за 7/V—1927 г., прапаную ўсім памянёным вышэй органам і ўстановам, рабіць неадкладныя захады да аказаньня дапамогі насяленьню, пацярпеўшаму ад выпадкаў градабіцьцяў і навальніц.

Для ўсебаковага і сваячаснага падліку разьмераў страт пацярпеўшых і для вызначэньня характару і сваячаснасьці дапамогі, утварыць пры акруговых выкачаўчых камітэтах спэцыяльныя камісіі з прадстаўнікоў: акруговага выканаўчага камітэту, зямельных аддзелаў і органаў дзяржаўнага страхаваньня.

Эканамічная Нарада БССР павінна даць дырэктывы адпаведным цэнтральным установам аб сваячасным ужыцьці захадаў да аказаньня дапамогі крэдытам і да неадкладнай выплаты страхавых прэмій пацярпеўшым.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **М. Галадзед.**

18 чэрвеня 1927 г.
№ 2063/68.
г. Менск.

---

**2. Усім упаўнаважаным Камісіі Інстытуту Беларускае Культуры па Ахове Помнікаў—да выкананьня, а ўсім акруговым і раённым выканаўчым камітэтам, акруговым і іншым краязнаўчым таварыствам—да ведама.**

На працягу апошняга дзесяцігодзьдзя праз плянавае тэхнічнае будаўніцтва па БССР праведзена многа работ важнага дзяржаўнага значэньня. Так, праведзены значныя мэліярацыйныя работы па выпростваньні і паглыбленьні рэк і магістральных каналаў; асушаны балоты і выкапаны новыя каналы; у галіне шляхавага будаўніцтва дзе-ні-дзе зроблены новыя грунтавыя дарогі, шосы і чыгункі; праведзены новыя тэлеграфныя і тэлефонныя лініі. Асабліва значныя работы праведзены ў гарадох, дзе часта расплянаваны зусім новыя кварталы, з новымі вуліцамі, плошчамі, рынкамі і садамі; пабудованы вадаправоды, электрычныя станцыі, заводы і фабрыкі; пабудованы новыя будынкі пад школы, бібліятэкі, музэі, тэатры і іншыя культурна-асьветныя ўстановы.

Часта такое будаўніцтва належным парадкам не рэгіструецца і з працягам часу немагчыма бывае знайсьці сьлед: калі распачата і

калі скончана тая ці іншая пабудова, пад чым кіраўніцтвам, паводле чыйго праэкту і на якія сродкі праводзілася работа і г. д. Словам, для гісторыі краіны губляюцца вельмі каштоўныя матар'ялы.

На падставе памянёнага вышэй, Камісія па Ахове Помнікаў просіць Вас:

1) узяцца, як найхутчэй, за зьбіраньне адпаведных матар'ялаў і дакумэнтаў плянавага будаўніцтва па матар'яльнай культуры, каб да 10-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі можна было падагуліць вынікі матар'яльнага будаўніцтва па Вашай акрузе;

2) завесьці асобную ведамасьць для рэгістрацыі прадметаў памянёнага вышэй будаўніцтва дзяржаўнага значэньня.

Самая форма і зьмест тэхнічнага апісаньня прадметаў матар'яльнай культуры выслана Вам 16/III-1927 г., за № 212440.

Старшыня Інстытуту Беларускае Культуры **У. Ігнатоўскі**.

Старшыня Камісіі Інстытуту Беларускае
Культуры па Ахове Помнікаў **М. Мароз.**

Навуковы Сакратар Камісіі Інстытуту Беларускае
Культуры па Аховы Помнікаў **І. Сербаў**.

20 чэрвеня 1927 г.
г. Менск.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ ПАРАДКУ ПРАВЯДЗЕНЬНЯ РЭВІЗІЙ НАРОДНЫХ СУДОЎ, СУДОВЫХ ВЫКАНАЎЦАЎ І НАТАРЫЯЛЬНЫХ КАНТОР.

*Усім Акруговым Судом.*

Пры выданьні ў 1925 г. інструкцый НКЮ №№ 67, 70 і 89 аб парадку правядзеньня рэвізій народных судоў, судовых выканаўцаў і натарыяльных кантор былі ўключаны ў памянёныя інструкцыі некаторыя моманты, якія прадугледжвалі зьвесткі аб тэрыторыі вучастку або натарыяльнай канторы, аб колькасьці насельніцтва, якое абслугоўваецца судом або натарыяльнаю кантораю, зьвесткі аб адлегласьці паасобных вёсак ад камэры суду і г. д.. Паказаныя зьвесткі былі ўключаны ў памянёныя вышэй інструкцыі таму, што да 1925 г. рэвізіі судовых устаноў ня былі сыстэматычнымі, многія з памянёных судовых устаноў ні разу не рэвізаваліся з часу іх арганізацыі і што трэба было ўсебакова выявіць розныя ўмовы працы судовых органаў для адпаведнага кіраваньня іх дзейнасьцю ў далейшым.

Бяручы пад увагу тое, што на працягу мінулага і бягучага гадоў абрэвізаваны ўжо амаль што ўсе народныя суды, судовыя выканаўцы і натарыяльныя канторы і ў выстарчаючай меры выяўлены ўмовы іх працы, Народны Камісарыят Юстыцыі лічыць:

1. У далейшым, пры рэвізіі тых судовых устаноў, якія ўжо рэвізаваліся, калі ня зьменены раёны іх абслугоўваньня, трэба звярочваць увагу толькі на становішча працы гэтых устаноў і, галоўным чынам, правяраць як выконваюцца імі дзеючыя законы і адпаведныя дырэктывы вышэйшых над імі судовых устаноў, а пытаньні, адзначаныя ў інструкцыі № 67—1925 г. ў разьдзеле I п. „а“, у разьдзеле II п.п. „а“, „б“, „в“ „г“, „е“, „ж“, „з“, і „і“ і ў разьдзеле V п. „е“, а ў інструкцыі № 70—1925 г. п. п. „а“, „б“ і „в“ разьдзелу А,

і ў інструкцыі № 89—1925 г. п. п. „а“, „б“, „в“, „г“ і „ж“ разьдзелу I, можна не выяўляць.

2. Рэвізія-ж тых судовых устаноў, якія яшчэ не рэвізаваліся да гэтага часу або рэвізаваных ужо ўстаноў, калі зьмяніўся раён іх абслугоўваньня, павінна рабіцца ў адпаведнасьці з інструкцыямі НКЮ №№ 67, 70 і 89 за 1925 г.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Эдперал.**

Ст. Інспэктар па Судоўніцтву і Нагляду **Х. Уладаўскі.**

11 чэрвеня 1927 г.
№ 45.

---

## 4. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ БОЛЬШ УВАЖЛІВЫХ АДНОСІНАХ ДА ІНТАРЭСАЎ ПРАЦОЎНЫХ ПРЫ РАЗГЛЯДЗЕ СПРАЎ АБ ІХ ВЫСЯЛЕНЬНІ З КВАТЭР І АБ СПАГНАНЬНІ КВАТЭРНАЙ ПЛАТЫ.

*Акруговым і народным судом.*

Касацыйная практыка акруговых судоў сьведчыць аб тым, што шмат пастаноў народных судоў па справах аб высяленьні з кватэр касуецца па прычыне няўважлівых адносін гэтых судоў да захаваньня інтарэсаў працоўных і да выкананьня патрабаваньняў закону.

З гэтай прычыны, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе наступнае:

1. Пры разглядзе спраў аб высяленьні з кватэр строга прытрымоўвацца пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 19 лютага 1927 г. „Аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў у гарадох і мястэчках“ (З. З. БССР 1927 г., № 12, арт. 42).

2. З асабліваю асьцярожнасьцю адносіцца да высяленьня з кватэр рабочых, членаў прафэсіянальных саюзаў і іншых працоўных, бяручы пад увагу кожны раз іх матар'яльнае і сямейнае становішча і агульныя ўмовы іх жыцьця і строга высьвятляючы ці ёсьць у сапраўднасьці тыя акалічнасьці, на падставе якіх яны могуць быць выселены паводле закону.

3. Пры ўжываньні пункту „а“ арт. 1-га паказанай вышэй пастановы ЦВК і СНК за 19 лютага 1927 г. высьвятляць, у якой меры асобаю, належачаю да высяленьня, паводле іскавых патрабаваньняў, праяўлены былі знарочнасьць або нядбаласьць да пагоршаньня становішча занятага імі памяшканьня і ці не зьявілася гэта пагоршаньне ў выніках агульнага карыстаньня памяшканьнем і псоты яго ад часу або іншых прычын, якія ня могуць быць пастаўлены ў віну кватэранту-адказчыку.

4. Пры ўжываньні часткі 1-ай пункту „д“ артыкулу 1-га тае самае пастановы ЦВК і СНК, г. зн. у выпадку няплаты за кватэру працоўнымі, паказанымі ў гэтым пункце, на працягу 2-х месяцаў пасьля таго, як настаў час платы, строга высьвятляць тэрмін, у які павінна была быць унесена плата, і ці зышоў законны тэрмін на выплату кватэрнай платы, а таксама, у выпадку пропуску гэтага тэрміну, высьвятляць прычыны яго і ступень няўважлівасьці іх, бяручы пад увагу матар'яльныя і іншыя акалічнасьці і толькі ў выпадках злоснай няплаты дазваляць высяленьне працоўных з кватэр.

5. Пры разглядзе спраў аб высяленьні на падставе пункту „ж“ паказанай вышэй пастановы ЦВК і СНК патрабаваць ад ісцоў падачы актаў тэхнічнага агляду памяшканьняў з адпаведным заключэньнем экспэртызы аб меры патрэбы капітальнага рамонту, пры гэтым у выпадках здавальненьня іскавых патрабаваньняў на адзначанай падставе паказаць у пастановах суду кожны раз тэрмін, у які гэты рамонт павінен быць зроблен.

6. У выпадках спагнаньня кватэрнай платы з працоўных высьвятляць ці адпавядае кватэрная плата, якая спаганяецца, разьмерам, устаноўленым кватэрнаю таксаю (пастанова ЦВК і СНК БССР за 23 кастрычніка 1926 г., З. З. БССР 1926 г. № 44, арт. 165), і не дазваляць прысуду з працоўных кватэрнай платы звыш норм гэтай таксы.

7. Пры разглядзе спраў аб высяленьні працоўных у зімовы час высьвятліць, у якой меры высяленьне можа адбіцца на асабістых і сямейных інтарэсах ясобы, якую трэба выселіць, і ў залежнасьці ад гэтага ў паасобных выпадках не дазваляць высяленьня ў зімовы час, ужываючы ў такіх выпадках артыкул 182-гі ГПК з адкладам тэрміну выкананьня пастановы да вясны.

8. Пры разглядзе спраў аб высяленьні працоўных або аб спагнаньні з іх кватэрнай платы няўхільна кіравацца артыкулам 5-м ГПК, дапамагаючы працоўным у абароне іх праў і законных інтарэсаў.

Час. выконв. аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

Член Калегіі Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

11 чэрвеня 1927 г.
№ 5

---

## 5. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ ЗЬНІШЧЭНЬНІ НЕКАТОРЫХ НЕДАХОПАЎ У РАБОЦЕ ПРАЦОЎНЫХ СЭСІЙ НАРОДНЫХ СУДОЎ І АБ НЕКАТОРЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАХ ПА ПАЛЕПШАНЬНІ ІХ ПРАЦЫ.

*Акруговым судом і працоўным сэсіям народных судоў.*

У рабоце працоўных сэсій наглядаецца шэраг недахопаў, якія павінны быць зьнішчаны. Так, напрыклад, наглядаюцца значныя тэрміны праходжаньня спраў, заваль іх у працоўных сэсіях, незахоўваньне патрабаваньняў Палажэньня аб Судоўніцтве, аб складзе працоўных сэсій, адсутнасьць увязкі іх з прафэсіянальнымі органамі, незадавальняючая пастаноўка працы па папулярызацыі працоўнага права, адсутнасьць у працоўных сэсіях юрыдычнай літаратуры па працоўным заканадаўстве і г. д.

З гэтай прычыны, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе зьвярнуць большую увагу на дзейнасьць працоўных сэсій і прыняць да ведама і кіраўніцтва і да ажыцьцяўленьня наступнае:

1. Зрабіць захады да скарачэньня тэрмінаў праходжаньня спраў у працоўных сэсіях, давёўшы іх да магчымага мінімуму, для чаго ўсе працоўныя справы зараз-жа пасьля паступленьня іх у суд назназначаць на разгляд, не дазваляючы ў гэтых адносінах ніякай марруднасьці.

2. Зрабіць захады да тэрміновай разгрузкі працоўных сэсій ад завалі старых спраў і не дазваляць далейшай загрузкі іх пад асабістую адказнасьць народнага судзьдзі—старшыні працоўнай сэсіі.

3. Зьвярнуць увагу на забесьпячэньне працоўных сэсій правільным складам іх, у адпаведнасьці з патрабаваньнем артыкулу 63-га Палажэньня аб Судоўніцтве, для чаго тэрмінова парагледзець склад усіх працоўных сэсій і зьнішчыць заўважаныя ў гэтых адносінах недахопы, і не дазваляць у далейшым удзельнічаць у судовых і распарадчых пасяджэньнях працоўных сэсій тым асобам, якія ня маюць права ўдзельнічаць у іх, у паасобку—народным засядацелям, якія могуць удзельнічаць толькі ў пасяджэньнях народнага суду.

4. Зьвярнуць увагу на ўстанаўленьне большай сувязі працоўных сэсій з прафэсіянальнымі органамі праз пастаноўку ў гэтых органах пэрыядычных дакладаў старшынь акруговых судоў і народных судзьдзяў—старшынь працоўных сэсій аб працы апошніх, робячы захады да зьнішчэньня заўважаных прафэсіянальнымі органамі недахопаў у дзейнасьці працоўных сэсій.

5. Зьвярнуць увагу на большую папулярызацыю працоўнага права сярод працоўных праз пастаноўку на фабрыках, прадпрыемствах і сельскіх сходах дакладаў па працоўным заканадаўстве і праз арганізацыю так званых „вечароў пытаньняў і адказаў“, а таксама—праз разгляд працоўных спраў у мясцох іх узьніканьня.

6. Зрабіць захады да забесьпячэньня працоўных сэсій народнага суду адпаведнаю юрыдычнаю літаратураю па працоўным заканадаўстве.

7. Для падняцьця работы працоўных сэсій і ўстанаўленьня сталага і бязупыннага нагляду за іх дзейнасьцю ўскласьці на аднаго з членаў акруговага суду, па выбару пленуму гэтага суду, штодзённае нагляданьне за іх працаю з давядзеньнем аб заўважаных ім недахопах да ведама старшыні акруговага суду для зьнішчэньня гэтых недахопаў.

8. Зрабіць захады да пэрыядычнага высьвятленьня ў друку дзейнасьці працоўных сэсій для прыцягненьня да яе ўвагі працоўных мас.

Незалежна ад паказанага вышэй, прапануецца старшыням акруговых судоў высьніць пытаньне аб мэтазгоднасьці існаваньня працоўных сэсій у паасобных раёнах праз пастаноўку гэтага пытаньня ў адпаведных акруговых прафэсіянальных саветах і свае меркаваньні па гэтым пытаньні, а таксама і прафэсіянальных саветаў, падаць НКЮ на працягу месяца ад дня атрыманьня гэтага абежніку.

Час. вык. аб. Народнага Камісара
Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

Член Калегіі Народнага Камісарыяту
Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

15 чэрвеня 1927 г.
№ 6.

---

## 6. Растлумачэньне Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### АБ ПАСЬВЕДЧАНЬНЯХ АСОБЫ.

У Н. К. Ўнутраных Спраў БССР ёсьць зьвесткі, што, ня гледзячы на дзеючыя акты аб пасьведчаньнях асобы—пастанову Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР за 20 чэрвеня 1924 г. і інструкцыю Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў аб

парадку ажыцьцяўленьня памянёнай вышэй пастановы (З. З. БССР—1924 г., № 8, арт. 91 і 100),—некаторыя органы на тэрыторыі БССР патрабуюць яшчэ ад грамадзян пасьведчаньні асобы абавязкова па форме, устаноўленай інструкцыяю Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў за 20/VI—1924 г., і тым самым прымушаюць іх абавязкова атрымоўваць такія пасьведчаньні.

З тае прычыны, што патрабаваньне ад грамадзян пасьведчаньняў асобы абавязкова па ўстаноўленай Н. К. Унутраных Спраў форме супярэчыць сэнсу памянёных вышэй актаў Цэнтральнай Улады, Н. К. Унутраных Спраў растлумачвае:

1. Пасьведчаньні асобы па форме, устаноўленай Н. К. Унутраных Спраў, зьяўляюцца найлепшым пасьведчаньнямі, але зусім не абавязковымі для грамадзян, апроч паасобных выпадкаў, прадугледжаных законам.

2. Калі няма такога пасьведчаньня, то трэба прызнаваць роўназначным яму пасьведчаньнем: членскія білеты, выдадзеныя прафэсіянальным саюзам або партыйнаю арганізацыяю, членскія кніжкі капяратываў, выпісы з актаў грамадзянскага стану, абкладныя лісты, службовыя пасьведчаньні асобы, адным словам, усякія дакумэнты, у якіх дакладна паказана імя і прозьвішча правяраемай асобы і яе месца пражываньня або месца службы і якія выдадзены дзяржаўнаю ўстановаю або прафэсіянальнаю арганізацыяю з адпаведнымі подпісамі і пячаткамі.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**
Начальнік Адміністрацыйнага Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў—Начальнік Міліцыі і Крымінальнага Вышуку Рэспублікі **Я. Кроль.**

8 чэрвеня 1927 г.
№ 104.

---

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### АБ ПЕРАДАЧЫ ДРУГІХ ЭКЗЭМПЛЯРАЎ ЗАПІСАЎ АКТАЎ ГРАМАДЗЯНСКАГА СТАНУ СЕЛЬСКІМІ, РАЁННЫМІ І ГАРАДЗКІМІ ЗАГС-амі ОРГАНАМ СТАТЫСТЫКІ.

*Начальнікам адміністрацыйных аддзелаў.*
*Копія—Цэнтральнай Статыстычнай Управе.*

Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР, замест п. п. 2 і 3 абежніку № 56 за 28/III—г. г. „Аб узаемаадносінах органаў ЗАГС і ЦСУ“ (Бюл. СНК № 7, 1927г. стар. 33), прапануе усім сельскім, раённым і гарадзкім ЗАГС‘ам другія экзэмпляры запісаў актаў грамадзянскага стану: шлюбаў, разводаў, нараджэньняў і сьмерцяў штомесяц перадаваць раённаму статыстыку (гарадзкія ЗАГС‘ы-беспасрэдна ў акруговае статыстычнае бюро), які, праверыўшы правільнасьць і паўнату запаўненьня запісаў, будзе адсылаць іх у адпаведныя акруговыя статыстычныя бюро.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

30 чэрвеня 1927 г
№ 119.

---

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

АБ ЗАХАДАХ ДЛЯ ЗМАГАНЬНЯ З ХУЛІГАНСТВАМ НА ЛІНІЯХ ЧЫГУНАК.

*Акруговым адміністрацыйным аддзелам, раённым выканаўчым камітэтам і сельскім саветам.*

*Копія—акруговым выканаўчым камітэтам.*

З зьвестак, якія паступаюць у Народны Камісарыят Унутраных Спраў відаць, што за апошні час сталі павялічвацца выпадкі псаваньня маемасьці чыгунак: біцьцё шкла ў вагонах паяздоў, разьбіваньне ізалятараў, адцягваньне і абрываньне дроту, а таксама накіданьне на іх розных прадметаў, псаваньне і зьнішчэньне падпор, прыставак тэлеграфных і тэлефонных слупаў, выкручваньне шруб з рэйкаў і цэлы шэраг іншых хуліганскіх выхадак асоб з мясцовага насельніцтва, якое жыве ўздоўж лініі чыгунак. Асабліва гэта пашырана ў Гомельскай акрузе. Мерапрыемствы для змаганьня з гэтымі злачынствамі павінны выяўляцца ў наступным:

1. Раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы на агульных сходах грамадзян, якія зьбіраюцца на той ці іншы выпадак, павінны растлумачыць насельніцтву ўсю шкоду, якая робіцца чыгунцы хуліганскімі выхадкамі паасобных злачынцаў, і заклікаць насельніцтва спыніць гэтыя зьявішчы і рабіць дапамогу ўсім органам улады, паведамляючы аб усіх асобах, замешаных у хуліганстве, у раённы выканаўчы камітэт, сельскі савет, міліцыю або сельскаму выканаўцу.

2. Раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы павінны узмоцніць нагляд за асобамі, замешанымі ў хуліганстве, паведамляючы аб кожным выпадку ў органы міліцыі.

3. Органы міліцыі павінны ўважліва расьледваць кожны паасобны выпадак, ня робячы ніякіх затрымак у справавядзеньні.

4. Акруговыя выканаўчыя камітэты павінны безадкладна выдаць па гэтым пытаньні абавязковыя пастановы ў парадку пастановы СНК БССР за 29-га сьнежня 1926 г., у якіх павінна быць паказана адказнасьць у судовым парадку на падставе арт. 176 К. К., узяўшы пад увагу тое, што хуліганства на транспарце па свайму характару зьяўляецца кваліфікаваным хуліганствам.

Калі вынікам гэтых хуліганскіх учынкаў зьяўляецца матар'яльная шкода дзяржаве, то для вінаватых павінна быць прадугледжана адказнасьць і па 196 арт. К. К., асабліва павінны быць прадугледжаны выпадкі раскраданьня дзяржаўнай маемасьці (дроту і г. д.), адзначыўшы ў абавязковых пастановах адказнасьць за гэтыя раскраданьні па арт. 180 К. К.

5. Абавязковыя пастановы, выдадзеныя па гэтым пытаньні, павінны быць распаўсюджаны і разьвешаны ўздоўж лініі трактавых дарог і чыгунак, у прылягаючых да іх насельных пунктах.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР **Я. Кроль.**

30 чэрвеня 1927 г.
№ 120.

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### АБ УЗГАДНЕНЬНІ ПРАЦЫ ЗЕМЛЯЎПАРАДЧЫХ ПАРТЫЙ З РАЁННЫМІ ВЫКАНАЎЧЫМІ КАМІТЭТАМІ І СЕЛЬСКІМІ САВЕТАМІ.

*Акруговым зямельным аддзелам.*

З зьменаю ў бягучым палявым пэрыядзе характару раённай земляўпарадчай службы ў зьвязку з ускладаньнем на раённых земляўпарадчыкаў беспасрэднага правядзеньня работ на мясцох узьнікае патрэба цеснай сувязі і ўзгадненьня работ земляўпарадчыкаў з раённымі выканаўчымі камітэтамі і сельскімі саветамі.

Маючы гэта на ўвазе Народны Камісарыят Земляробства прапануе неадкладна даць земляўпарадчыкам і раённым выканаўчым камітэтам адпаведныя ўказаньні і з свайго боку лічыць мэтазгодным паказаную ўвязку працы па земляўпарадкаваньні ажыцьцяўляць наступным чынам:

1. Усім раённым выканаўчым камітэтам павінны рассылацца да ведама раённыя выканаўчыя пляны работ па земляўпарадкаваньні.

2. Земляўпарадчыкі, якія камандыруюцца акруговым зямельным аддзелам для выкананьня спраў, павінны абавязкова зьяўляюцца ў адпаведны раённы выканаўчы камітэт для інфармацыі аб сутнасьці і парадку дручаных ім работ і для атрыманьня ад раённых выканаўчых камітэтаў адпаведных указаньняў.

3. Да распачатку работ начальнікі земляўпарадчых партый або самастойна працуючыя земляўпарадчыкі інфармуюць аб сваёй працы адпаведныя сельскія саветы, з якімі на працягу ўсяе работы павінны падтрымоўваць цесную сувязь.

4. Земляўпарадчыкі выконваюць земляўпарадчыя работы паводле зацьверджанага пляну работ, пры гэтым патрэбныя зьмены ў чарзе выкананьня могуць рабіцца толькі акруговымі зямельнымі аддзеламі.

5. У працэсе работ начальнікі партый і самастойна працуючыя земляўпарадчыкі павінны ня менш аднаго разу на два-тры месяцы, у час па згодзе з раённым выканаўчым камітэтам, рабіць раённым выканаўчым камітэтам справаздачныя даклады аб працы, высьвятляючы як посьпехі, так і недахопы працы, і намячаючы захады да адхіленьня гэтых недахопаў.

6. Начальнікі партый або самастойна працуючыя земляўпарадчыкі, пасьля ўзгадненьня з адпаведнымі сельскімі саветамі, павінны рабіць інфармацыйныя даклады на пасяджэньнях сельскіх саветаў аб ходзе работ і аб недахопах, якія бываюць у рабоце. Такія даклады павінны рабіцца без перашкоды для работы раз у 1—2 месяцы. Сельскі савет павінен дапамагаць земляўпарадчыкам па ўсіх галінах іх працы.

7. Пры выкананьні работ у натуры раённыя выканаўчыя камітэты, як беспасрэдна, так і праз сельскія саветы, павінны рабіць земляўпарадчыкам дапамогу ва ўсіх галінах працы і асабліва пры атрыманьні адпаведнага памяшканьня, матар'ялаў для работ і інш., паводле абавязкаў земляўпарадкоўваемага насельніцтва, прадугледжаных арт. 159 Зям. Код.

8. Пры выкананьні работ прадстаўнік раённага выканаўчага камітэту ўдзельнічае ў расцэнцы зямель, належачых да земляўпарадкаваньня, у разглядзе земляўпарадчыкам зямельных спрэчак і пры паказаньні земляўпарадчага праэкту, пасьведчаючы гэтыя дзеяньні сваім подпісам.

9. Усе скаргі, якія паступаюць у раённы выканаўчы камітэт у часы выкананьня справы і тычацца сутнасьці земляўпарадчых дзеяньняў, накіроўваюцца раённым выканаўчым камітэтам земляўпарадчыку для кіраўніцтва пры складаньні праэкту.

10. Раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы ня маюць права ўмешвацца ў апарацыйна-тэхнічную працу земляўпарадчыкаў.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Начальнік Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня,
Мэліярацыі і Дзяржаўнай Зямельнай
Маемасьці НКЗ БССР **А. Шычко.**

9 чэрвеня 1927 г.
№ 3/з 27.

---

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ НАГЛЯДЗЕ ЗА РАЗЬВІЦЬЦЁМ АРЭНДНЫХ АДНОСІН НА ВЁСЦЫ І АБ ПАДЛІКУ І РЭГІСТРАЦЫІ АРЭНДНЫХ ДАГАВОРАЎ.

*Акруговым зямельным аддзелам і раённым выканаўчым камітэтам БССР.*

Да апошніх часоў зямельнымі органамі не зьварталася належная ўвага на вывучэньне пытаньняў арэндных адносін на вёсцы. Не рабіліся таксама ніякія захады да належнага нагляду за сваячасною рэгістрацыяю арэндных дагавораў, а сама рэгістрацыя зьяўлялася чыста тэхнічным дзеяньнем па запісе кароткага зьместу дагавару ў кнігу арэндных дагавораў.

У зьвязку з гэтым, у дадатак да існуючых распараджэньняў па пытаньнях арэнды зямель і на падставе пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 22-га лістапада 1926 г., Народны Камісарыят Земляробства прапануе да выкананьня наступнае:

1. Забараніць здачу зямлі ў арэнду за адработак, такія арэндныя дагаворы лічыць кабальнымі і іх не рэгістраваць. Арэндная плата можа быць устаноўлена ў грашовай форме, у натуральной форме альбо з долі, прычым ва ўсіх выпадках плата ў дагаворы абавязкова вызначаецца ў пераводзе на грошы.

2. Раённыя выканаўчыя камітэты павінны рабіць усе захады да захаваньня ўсіх існуючых законаў пры вырашэньні пытаньняў аб правох на здачу зямлі ў арэнду.

3. Не дазваляць здачы перасяленцамі зямлі ў арэнду на тэрмін больш, як на тры гады, а пры жаданьні старон устанавіць большы тэрмін, адмаўляць у рэгістрацыі арэндных дагавораў.

4. Нагляд за разьвіцьцём арэндных адносін на вёсцы, падлік арэндных дагавораў і абавязак пэрыядычнай справаздачнасьці па гэтым пытаньні ўскладаецца ў раёнах на загадчыкаў зямельнай часткі раённых выканаўчых камітэтаў, а ў акругах—на інспэктароў па зямельнай рэгістрацыі.

5. Раённыя выканаўчыя камітэты павінны сачыць за тым, каб усе арэндныя дагаворы абавязкова падаваліся на рэгістрацыю, а ў выпадках незарэгістраваньня дагавору ставіць пытаньне аб адабраньні зямлі ў парадку арт. 58 Зямельнага Кодэксу.

6. Зямельная грамада мае права здаваць у арэнду тыя землі, якія знаходзяцца ў агульным карыстаньні.

*Увага* 1. Пры здачы такіх зямель для ня сельска-гаспадарчых мэт трэба кіравацца арт. 14-м Зям. Код. і інструкцыяю за 2 студзеня 1926 г. № 3 (апублікована ў „Бюлетэні СНК“ № 1—1926 год).

*Увага* 2. Здача зямель агульнага карыстаньня пад забудоўку дазваляецца з захаваньнем увагі да арт. 60-га Зям. Кодэксу (З.З.БССР—1926 г. № 40, арт. 150).

7. Арэндная плата за зямлю агульнага карыстаньня ідзе на гаспадарчыя і культурна-асьветныя мэты данай зямельнай грамады.

8. Для своечаснага і правільнага нагляду за разьвіцьцём арэндных адносін зямельныя ўстановы павінна пасылаць пэрыадычныя справаздачы вышэйшым над імі ўстановам. Справаздача падаецца паводле дадanай да гэтага абежніку формы, прычым раённыя выканаўчыя камітэты пасылаюць у акруговыя зямельныя аддзелы раённую сводку раз у год не пазьней 10/X за мінулы год (з 1/X да 1/X), а акруговыя зямельныя аддзелы распрацоўваюць іх, робяць належныя вывады і складаюць акруговую сводку, якую падаюць у Н. К. Земляробства разам з гадавою справаздачаю па земляўпарадкаваньні. У кожную справаздачу ўключаюцца даныя аб дзеючых арэндах за ўвесь ранейшы час.

9. З тае прычыны, што ў існуючых цяпер формах тыповага дагавору і ордэрнай кніжкі няма поўных зьвестак для складаньня справаздачы за мінулы час, трэба па ўсіх зарэгістраваных да гэтага часу дзеючых дагаворах, а таксама па арэндзе зямель лясного ведамства і дзяржаўных зямельных маемасьцяй, паклапаціцца сабраць гэтыя зьвесткі да канца апарацыйнага году, а пры рэгістрацыі новых дагавораў адразу высьвятляць усе патрэбныя для справаздачы зьвесткі, каб у канцы году справаздача давала поўны малюнак разьвіцьця арэндных адносін у акрузе або раёне.

10. Адміністрацыйна-тэхнічны пэрсанал акруговага зямельнага аддзелу пры выездах ў раёны для рэвізіі і інспэктараваньня павінен цікавіцца, як выконваецца гэта распараджэньне.

11. Зямельныя ўстановы павінны ня менш аднаго разу ў год даваць выканаўчым камітэтам справаздачныя даклады аб арэндзе зямлі.

12. Новыя формы тыповых дагавораў і ордэрных кніг распрацоўваюцца Н. К. Земляробства і будуць разасланы пасьля зьмены Урадам арт. 31-га Зямельнага Кодэксу аб перадачы рэгістрацыі арэнды зямель сельскім саветам.

Нам. Народнага Камісара
Земляробства БССР **Ц. Каровікаў.**

Нач. Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня,
Мэліарацыі і Дзяржаўных Зямельных
Маемасьцяй НКЗ БССР **А. Шычко.**

25 чэрвеня 1927
№ 29.

# З Ь В Е С Т К І

## аб працоўнай арэндзе зямель па .................................... раёну ........................................ акругі

### за час з I/X 192   г. да I/X 192   г.

| Групы гаспадарак па эканамічным становішчы | Характарыстыка гаспадарак, якія арандуюць зямлю ад сялян, лясного ведамства і Д. З. М. | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік гаспадарак, якія арандуюць зямлю | Сям'я | | Землякарыстаньне да арэнды (дзесяцін) | | | | | Лік гаспадарак, якія арандуюць зямлю | | | Плошча арандаванай зямлі (дзес.) | | | У тым ліку (дзес.) | | Лік гаспадарак, якія арандуюць зямлю | | | | | | | Сярэдн. разьмер грош. арэн. платы за 1 дзес. | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | на тэрмін | | | па відах арэнды | | | | | | |
| | | Усяго душ | У тым ліку працаздольных | Пахаць і сядзіба | Сенажаць | Іншая ўжыткоўная | Няўжыткоўная | Усяго | Сялянскую | Лясного ведамства | Дзярж. зям. маемасьці | Сялянскай | Лясного ведамства | Дзярж. зям. маем. | Пахаці | Сенажаці | Ад 1-го да 3-х гадоў | Ад 3-х да 6-ці гадоў | Звыш 6-ці гадоў | За грошы | З часьці | За плату натураю | За адработак | Пахаці | Сенажаці | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | |
| Бядняцкія | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | Графы 27—34 для характарыст. гаспадарак, якія здаюць зямлю ў арэнду запаўняюцца такімі-ж зьвесткамі як і графы 2—9 |
| Серадняц. | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Заможныя | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Па ўсіх гр | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

| | Характарыстыка гаспадарак, якія здаюць зямлю ў арэнду | | | | | | | | Лік гаспадарак, якія здаюць зямлю ў арэнду | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | Што перасяляюцца | Што займаюцца промысламі на месцы | Што пэрыядычна выяздж. на зараб. | Іншыя | Што здаюць усю зямлю | Што здаюць больш паловы зямлі | Што здаюць менш паловы ўсяе зямлі |
| | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 |
| Бядняцкія | | | | | | | | | | | | | | | |
| Серадняц. | | | | | | | | | | | | | | | |
| Заможныя | | | | | | | | | | | | | | | |
| Па ўсіх гр. | | | | | | | | | | | | | | | |

Подпіс асобы адказнай за справаздачнасьць:

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ НАДПІСЕ НА АТЭСТАТАХ І ПАСЬВЕДЧАНЬНЯХ, ЯКІЯ ВЫДАЮЦЦА СКОНЧЫЎШЫМ ВЫШЭЙШЫЯ ШКОЛЫ, РАБОЧЫЯ ФАКУЛЬТЭТЫ, ТЭХНІКУМЫ, ШКОЛЫ II СТУПЭНІ АДПАВЯДАЮЧЫЯ ШКОЛЫ, АБ АДБЫВАНЬНІ ВАЙСКОВАЙ СЛУЖБЫ Ў ПАРДКУ XIII РАЗЬДЗЕЛУ ЗАКОНУ АБ АБАВЯЗКОВАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛУЖБЕ.

На падставе адносьніку Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў СССР і Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету СССР за 1 сакавіка 1927 г. № 66591, Народны Камісарыят Асьветы пастанаўляе:

Рабіць на адваротным баку атэстатаў і пасьведчаньняў, якія выдаюцца мужчынам, скончыўшым вышэйшыя школы, рабочыя факультэты, тэхнікумы, школы II-й ступені і адпавядаючыя ім школы, што пералічаным у далучаным да гэтай пастановы сьпісе,—наступны надпіс: „У выпадку ўзяцьця на вайсковую службу павінен адбываць яе ў парадку разьдзелу XIII 'Закону аб абавязковай вайсковай службе“ („З. З. СССР“ 1925 г., № 62, арт. 463).

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

2 чэрвеня 1927 г.
№ 94.

---

ДАДАТАК.

### Сьпіс школ і курсаў БССР, пасьля сканчэньня якіх мужчыны павінны адбываць вайсковую службу ў парадку разьдзелу XIII Закону аб абавязковай вайсковай службе.

1. Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт.
2. Беларуская Дзяржаўная Акадэмія Сельскай Гаспадаркі імя Кастрычнікавай Рэвалюцыі.
3. Беларускі Дзяржаўны Вэтэрынарны Інстытут.
4. Камуністычны Унівэрсытэт імя Ул. Леніна.
5. Менскі Рабочы Факультэт.
6. Горацкі Рабочы Факультэт.
7. Аршанскі Рабочы Факультэт.
8. Вячэрні Рабочы Факультэт пры Беларускім Дзяржаўным Вэтэрынарным Інстытуце.
9. Менскі Дзяржаўны, імя Ўс. Ігнатоўскага, Пэдагагічны Тэхнікум.
10. Мазырскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
11. Барысаўскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
12. Аршанскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
13. Віцебскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
14. Магілеўскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
15. Мсьціслаўскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
16. Полацкі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
17. Рагачэўскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
18. Гомельскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.

19. Менскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум з выкладаньнем на яўрэйскай мове.
20. Віцебскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум з выкладаньнем на яўрэйскай мове.
21. Гомельскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум з выкладаньнем на яўрэйскай мове.
22. Менскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум з выкладаньнем на польскай мове.
23. Менскі Дзяржаўны Гідратэхнічны Тэхнікум.
24. Варонецкі Дзяржаўны Сельска-Гаспадарчы Тэхнікум.
25. Магілеўскі Дзяржаўны Земляўпарадчы Тэхнікум.
26. Мар'іна-Горскі Дзяржаўны Садоўніча-Гародны Тэхнікум.
27. Полацкі Дзяржаўны Лясны Тэхнікум.
28. Красна-Бярэскі Дзяржаўны Сельска-Гаспадачы Тэхнікум.
29. Васілевіцкі Дзяржаўны Лясны Тэхнікум.
30. Магілеўскі Дзяржаўны Акушорскі Тэхнікум.
31. Магілеўскі Дзяржаўны Фармацэўтычны Тэхнікум.
32. Віцебскі Дзяржаўны Капярацыйны Тэхнікум.
33. Менскі Дзяржаўны Архітэктурна-Дарожна-Будаўнічы Тэхнікум.
34. Віцебскі Дзяржаўны Палітэхнікум.
35. Менскі Дзяржаўны Музычны Тэхнікум.
36. Віцебскі Дзяржаўны Мастацкі Тэхнікум.
37. Усе школы II ступені.
38. Віцебская Савецкая Партыйная Школа II ступені.
39. Гомельская Савецкая Партыйная Школа II ступені.
40. Школы для дарослых падвышанага тыпу з 3-х гадовым курсам навучаньня.
41. Усе агульна-адукацыйныя курсы для скончыўшых 7 гадовыя працоўныя школы.
42. 1, 2 і 3 Менскія школы для дарослых падвышанага тыпу.
43. 1 і 2 Бабруйскія школы для дарослых падвышанага тыпу.
44. 1, 2 і 3 Віцебскія школы для дарослых падвышанага тыпу.
45. Школы для дарослых падвышанага тыпу ў Магілеве, Мазыры, Воршы, Палацку і Слуцку.

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР **Ю. Савіч**

---

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ УРАЎНЕНЬНІ ДЗЯЦЕЙ СПЭЦЫЯЛІСТАЎ З ДЗЯЦЬМІ РАБОЧЫХ ПРЫ ПАСТУПЛЕНЬНІ Ў НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ.

На падставе арт. 4 пастановы Савету Народных Камісараў СССР за 13/IV—1926 г. „Аб палепшаньні ўмоў працы спэцыялістаў, якія знаходзяцца на службе ў дзяржаўных установах і прадпрыемствах“, Народны Камісарыят Асьветы пастанаўляе:

1. Дзяцей тых спэцыялістаў, якія працуюць у дзяржаўных установах і прадпрыемствах, прымаць у навучальныя ўстановы БССР на аднолькавых умовах з дзяцьмі рабочых.

Да паказаных вышэй спэцыялістаў належаць:

а) члены інжэнэрна-тэхнічных сэкцый прафэсіянальных саюзаў;

б) члены сэкцыі навуковых працаўнікоў прафэсіянальнага саюзу працаўнікоў асьветы;

в) аграномы, вэтэрынарныя дактары, лесагадавальнікі і земляўпарадчыкі, якія зьяўляюцца членамі адпаведных сэкцый прафэсіянальных саюзаў;

г) дактары (лекары)—члены лекарскіх сэкцый прафэсіянальнага саюзу „Медсантруд“.

Да гэтай-жа групы, па карыстаньні правам на паступленьне ў навучальныя ўстановы на аднолькавых умовах з дзяцьмі рабочых, прыроўніваюцца дзеці настаўнікаў наступных культурна-асьветных установў: чатырохгадовых школ (I ступені), сямігадовых школ (II-й ступені), школ пры дзіцячых дамох, школ падвышанага тыпу, тэхнікумаў, школ сялянскай моладзі, прафэсіянальна-тэхнічных школ, дзеці выкладчыкаў рабфакаў, а таксама і дзеці хатнікаў і бібліятэкараў сельскіх мясцовасьцяй.

2. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы за 29 ліпеня 1926 г. № 67 „Аб ураўненьні дзяцей спэцыялістаў з дзяцьмі рабочых пры прыёме ў навучальныя ўстановы“—скасаваць.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч**.

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР **Ю. Савіч**.

30 чэрвеня 1927 г.
№ 110.

---

## 13. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

### АБ ПАРАДКУ РАЗГЛЯДУ КАНФЛІКТАЎ, ЯКІЯ ЎЗЬНІКАЮЦЬ ПРЫ ЎЖЫВАНЬНІ НАЙМАВАЕ ПРАЦЫ Ў РАЁННЫХ І СЕЛЬСКІХ МЯСЦОВАСЬЦЯХ.

Народны Камісарыят Працы і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР ўстанаўляюць наступны парадак разгляду канфліктаў, якія ўзьнікаюць пры ўжываньні наймавае працы ў раённых і сельскіх мясцовасьцях:

1. Канфлікты, якія ўзьнікаюць у прадпрыемствах, установах і гаспадарках, дзе працуе ня менш пяці рабочых і служачых, вырашаюцца ў агульным, устаноўленым арт. арт. 168—174 Кодэксу Законаў аб Працы і абежнікам Народнага Камісарыяту Працы і Цэнтральнага Савету Прафэсіянальных Саюзаў БССР за 20 верасьня 1926 г., № 54 „Аб парадку накіраваньня працоўных канфліктаў“ (Бюлетэнь СНК БССР 1926 г., № 12, стар. 24), парадку.

2. Канфлікты, якія ўзьнікаюць у раённых і сельскіх мясцовасьцях у прадпрыемствах, установах і гаспадарках, у якіх працуе менш пяці рабочых і служачых, вырашаюцца ў парадку і органамі, паказанымі ў пастанове Н. К. Працы, Н. К. Унутраных Спраў, Н. К. Юстыцыі і Цэнтральнага Савету Прафэсіянальных Саюзаў БССР за 21 кастрычніка 1925 г. „Аб парадку вырашэньня працоўных спрэчак, якія ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймавае працы ў сялянскіх гаспадарках“. (З. З. БССР 1926 г., № 5, арт. 19).

3. З часу выданьня гэтай пастановы касуюцца: а) пастанова Н. К. Працы БССР за 8 студзеня 1925 г. „Аб парадку разгляду канфліктаў, якія ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймавае працы ў мясцовасьцях, падпарадкаваных раённым выканаўчым камітэтам (З. З. БССР 1925 г., № 17, арт. 155) і б) інструкцыя Н. К. Працы БССР за 15/I—1926 г., выданая ў разьвіцьцё паказанай вышэй пастановы Н. К. Працы БССР за 8/I—1925 г.

4. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з 1-га мая 1927 году.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А Сташэўскі.**

Заг. Тарыфна-Канфлікт. Аддзелу
Н. К. Працы БССР **С. Гольдберг.**

Узгоднена з Цэнтральным Саветам
Прафэсіянальных Саюзаў БССР:

Загадчык Тарыфна-Эканамічнага Аддзелу **З. Каган.**

18 красавіка 1927 г.
№ 56.

---

Узгоднена з Н. К. Асьветы,
ЦСПС і ЦП Саюзу Працаўнікоў
Асьветы БССР.

## 14. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ПАРАДКУ АПЛАТЫ ЛЕТНІХ ВАКАЦЫЙ ПРАЦАЎНІКОМ АСЬВЕТЫ.

У разьвіцьцё да пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 4 ліпеня 1925 году „Аб парадку аплаты летніх вакацый, якія даюцца працаўнікам асьветы“ (Бюл. СНК БССР, 1925 г., № 5) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Спыненьне заняткаў на час вакацый ня можа разглядацца, як спыненьне працы паводле п. „б“ арт. 47 Кодэксу Законаў аб Працы і як повад да скарачэньня штатаў, з гэтай прычыны пэдагагічны і абслугоўваючы пэрсанал (у тым ліку і вартаўнікі навучальных установаў усіх тыпаў) ня могуць з надыходам вакацый звальняцца.

2. Асобы пэдагагічнага пэрсаналу, звольненыя на падставе п. п. „а“ і „в“ арт. 47 Кодэксу Законаў аб Працы на працягу 2-х месяцаў да пачатку летніх вакацый, маюць права на атрыманьне заработнай платы за ўвесь час летніх вакацый з разрахунку сярэдняга заработку за апошнія 3 месяцы да звальненьня.

*Увага.* Гэты артыкул пашыраецца на ўсіх школьных працаўнікоў, апроч адміністрацыйна-гаспадарчага, тэхнічнага і канцылярскага пэрсаналу.

3. Чарговы водпуск працаўнікам асьветы, як агульнае правіла, даецца ў пэрыяд летніх вакацый. Тэрмін водпуску ўстанаўляецца ў адпаведнасьці з дзеючым па гэтым пытаньні заканадаўствам, калі іншае не абумоўлена калектыўнаю або працоўнаю ўмоваю.

У часе водпуску працаўнікі асьветы ня могуць прыцягвацца ні да якой працы.

4. Калі ў часе чарговага водпуску працаўнік захварэў і доктарска-кантрольная камісія прызнала яго непрацаздольным на той ці іншы тэрмін, а таксама, калі ў часе водпуску працаўнік будзе ўзяты ў тэрытарыяльны збор, то не скарыстаная часьць водпуску павінна быць скарыстана пасьля выздараўленьня або пасьля звароту з тэрытарыяльнага збору, але пры згодзе РКК гэта часьць водпуску можа быць сплачана грашмі.

5. Гэта пастанова пашыраецца і на ўсіх пераведзенных па загаду адміністрацыі працаўнікоў навучальных установ усіх тыпаў, якія працавалі на працягу навучальнага году ў розных навучальных установах.

6. Пастанову Савету Народных Камісараў БССР за 4 ліпеня 1925 году „Аб парадку аплаты летніх вакацый, якія даюцца працаўнікам асьветы" (Бюл. СНК БССР 1925 г., № 5) пашырыць на ўсіх працаўнікоў навучальных установ усіх тыпаў.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Працы БССР **А. Круглік.**

27 чэрвеня 1927 г.
№ 67.

---

Зацьверджана Прэзыдыумам Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі (пратакол за 7-га чэрвеня 1927 г., № 11 арт. 99).

## 15. Інструкцыя Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі пры Народным Камісарыяце Сацыяльнага Забесьпячэньня БССР

### АБ АБАВЯЗКАХ СТАРШЫНІ І САКРАТАРА РАЁННАГА КАМІТЭТУ СЯЛЯНСКІХ ТАВАРЫСТВАЎ УЗАЕМАДАПАМОГІ.

I. Старшыня раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі выконвае наступныя абавязкі:

1. Кіруе ўсёю працаю раённага камітэту і сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі раёну і пасяджэньнямі Прэзыдыуму раённага камітэту, пленумаў і нарад старшынь сельскіх камітэтаў на падставе пляну працы.

2. Ажыцьцяўляе пастановы прэзыдыуму раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, пленумаў і нарад старшынь сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі пасьля зацьверджаньня іх Цэнтральным Камітэтам Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі.

3. Распрацоўвае паводле дырэктыў Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі гадовыя, квартальныя і каляндарныя пляны працы і агульны каштарыс для сельскіх таварыстваў узаемадапамогі раёну, падае іх на зацьверджаньне прэзыдыуму або пленуму раённага камітэту і, пасьля зацьверджаньня прэзыдыумам або пленумам і Цэнтральным Камітэтам, выконвае гэтыя пляны і каштарысы.

4. Апрацоўвае ўсе пратаколы, пляны працы, каштарысы і іншыя справы і падае іх на зацьверджаньне або на вырашэньне прэзыдыуму раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

5. Трымае сувязь з раённым выканаўчым камітэтам, раённым камітэтам КП(б)Б, раённым крэдытным таварыствам, узгадняе з гэтымі органамі пляны працы, каштарысы і іншыя справы. Робіць інфармацыйныя даклады аб працы сельскіх таварыстваў узаемадапамогі раёну на пасяджэньнях раённага выканаўчага камітэту і на пасяджэньнях бюро раённага камітэту КП(б)Б і выконвае дадзеныя імі дырэктывы аб палепшаньні працы сельскіх таварыстваў узаемадапамогі.

6. Удзельнічае ў падатковай і лясной камісіях, у камісіі па дзяржаўным страхаваньні і ў працы кіраўніцтва крэдытнага таварыства пры абмеркаваньні імі пытаньняў, датычных дачы льгот і крэдытаў бядняцкім сялянскім гаспадаркам.

7. Абсьледвае працу сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, паводле каляндарнага пляну і дырэктыў Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі, а ў надзвычайных выпадках і не паводле пляну, складае акты абсьледваньня, падагульваючы дасягненьні і недахопы ў працы абсьледаванага сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі і, даючы прапановы для далейшай працы таварыства, падае акт абсьледваньня на разгляд прэзыдыуму раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і накіроўвае адзін экзэмпляр акту разам з вынесенаю прэзыдыумам раённага камітэту пастановаю ў Цэнтральны Камітэт сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі на зацьверджаньне.

8. Узгадняе ўсе пытаньні, вынікшыя пры абсьледваньні сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі з сельскім саветам і з мясцоваю ячэйкаю КП(б)Б або ЛКСМ, каб з іх дапамогаю палепшыць працу сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі.

9. Кіруе працаю сельскіх рэвізійных камісій праз праверку іх працы на мясцох, праз растлумачэньне, як трэба правільна рабіць рэвізію сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі, праз разгляд актаў рэвізійных камісій і праз дачу аб іх сваіх прапаноў і тлумачэньняў як сельскім камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, так і рэвізійным камісіям для выпраўленьня працы.

Пры абсьледваньні таго ці іншага сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі старшыня раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі павінен уважліва ўнікаць ва ўсе ўмовы працы абсьледаванага сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі як з арганізацыйнага, так і гаспадарчага боку, і дапамагаць яму ў працы ня толькі словамі, але і на справе.

10. Падае на пасяджэньні Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі свае меркаваньні па высунутых на мясцох пытаньнях аб зьмене або аб палепшаньні працы сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

11. Арганізоўвае ў раённым камітэце сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі насенны натуральны фонд, паводле Палажэньня і Інструкцыі аб насенных натуральных дзяржаўна-грамадзкіх фондах, робіць захады да яго ўзмацненьня і папаўненьня, падае на разгляд прэзыдыуму або пленуму раённага камітэту сялянскіх таварыстваў

узаемадапамогі ўсе матар'ялы аб палепшаньні гэтай працы і адказвае за цэласьць гэтага фонду і правільнае яго скарыстаньне.

12. Арганізоўвае пры раённым камітэце сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі дапаможныя сельскай гаспадарцы вытворчыя прадпрыемствы раённага значэньня, паводле прапаноў і інструкцыі аб гэтым.

13. Ад імя раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і па яго даручэньні атрымоўвае крэдыты і пазычкі ад крэдытных і іншых органаў, паводле правіл аб крэдытаваньні вытворчых прадпрыемстваў камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, і адказвае за цэласьць атрыманых крэдытаў і за скарыстаньне іх па прызначэньні.

14. Наглядае за працаю вытворчых прадпрыемстваў раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, правярае іх працу і робіць інфармацыйныя даклады на прэзыдыумах і пленумах раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі аб працы прадпрыемстваў, аб іх дасягненьнях і выконвае пастановы аб палепшаньні іх працы.

15. Наглядае за вытворчымі прадпрыемствамі, якія знаходзяцца ў карыстаньні сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, правярае іх дзейнасьць і накіроўвае іх працу па правільным шляху.

16. Наглядае за тэхнічаю працаю па справаводзтву, рахункаводзтву і справаздачнасьці раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і адказвае за невыкананьне прапаноў, дадзеных Цэнтральным або акруговым камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і кіруючымі савецкімі органамі, а таксама і за няправільна пастаўленае справаводзтва, падлік і справаздачнасьць.

17. Выяўляе ў працэсе працы актыў камітэтаў, з якога падбірае працаздольных старшынь сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, кіруе імі і патрыхтоўвае перавыбары сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

II. Сакратар раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі выконвае наступныя абавязкі:

1. Вядзе тэхнічную працу раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі па справаводзтву, рахункаводзтву і справаздачнасьці і адказвае за несваячаснае выкананьне і няправільнае вядзеньне рахункаводзтва і падліку.

2. Вядзе пратаколы пасяджэньняў пленуму і нарад раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

3. У час адсутнасьці старшыні раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі выконвае яго абавязкі і адказвае за ўсю працу раённага камітэту.

4. Пэрыядычна абсьледвае тэхнічную працу сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, аб чым робіць інфармацыйныя даклады на пасяджэньні прэзыдыуму раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

5. На раённых нарадах старшынь сельскіх камітэтаў сялянскіх
таварыстваў узаемадапамогі, а таксама і сакратароў сельскіх саветаў
робіць тлумачэньні аб парадку і форме вядзеньня ў сельскіх камі-
тэтах сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі справаводзтва, рахун-
каводзтва і справаздачнасьці.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі
пры Н. К. Сацыяльнага Забесьпячэньня БССР **Л. Адзінцоў.**

Адказны Сакратар Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі
пры Н. К. Сацыяльнага Забесьпячэньня БССР **П. Стрыкаў.**

---

7 чэрвеня 1927 г.
№ 4.

Зацьверджана Прэзыдыумам Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі пры НКСЗ БССР (прат. № 10, арт. 97, за 25 мая 1927 г.).

## 16. Інструкцыя Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі пры Народным Камісарыяце Сацыяльнага Забесьпячэньня БССР

### АБ АБАВЯЗКАХ СТАРШЫНІ АКРУГОВАГА КАМІТЭТУ СЯЛЯНСКІХ ТАВАРЫСТВАЎ УЗАЕМАДАПАМОГІ.

Пасьля рэарганізацыі акруговых камітэтаў сялянскіх тавары-
стваў узаемадапамогі на старшыню акруговага камітэту ўсклада-
юцца наступныя абавязкі:

1. Абсьледаваньне і інструктаваньне раённых камітэтаў сялян-
скіх таварыстваў узаемадапамогі, паводле каляндарнага пляну, якія
зацьверджаны Цэнтральным Камітэтам Сялянскіх Таварыстваў Уза-
емадапамогі, а ў надзвычайных выпадках і няплянавае абсьлед-
ваньне.

2. Інструктаваньне камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемада-
памогі на мясцох, сувязь з мясцовымі, савецкімі і партыйнымі орга-
намі і інфармаваньне іх аб становішчы і працы камітэтаў сялянскіх
таварыстваў узаемадапамогі абсьледаванага раёну і сумеснае выра-
шэньне пытаньня аб палепшаньні гэтай працы.

3. Абсьледаваньне ў раёне 2—3 сельскіх камітэтаў для высь-
вятленьня працы раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаема-
дапамогі і ў надзвычайных выпадках (растрата, злачынства) абсьлед-
ваньне тых сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапа-
могі, дзе гэта патрэбна будзе для карысьці працы або для зьніш-
чэньня злачынства.

4. Кіраваньне працаю раённых і сельскіх рэвізійных камісій
камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

5. Пры абсьледаваньні таго ці іншага камітэту сялянскіх тава-
рыстваў узаемадапамогі старшыня акруговага камітэту сялянскіх
таварыстваў узаемадапамогі павінен уважліва ўнікаць ва ўсе
задачы, што стаяць перад камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаема-
дапамогі па ўсіх пытаньнях, вызначаных плянамі іх працы і прапа-

новамі, дадзенымі як Цэнтральным Камітэтам, так і старшынёю акруговага камітэту пры папярэдніх абсьледаваньнях, а таксама дырэктывамі кіруючых партыйных і савецкіх органаў і прапановамі рэвізійнай камісіі. Пасьля абследаваньня складаецца кароткі і ясны акт аб становішчы абсьледаванага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, падагульваючы ў апошнім дасягненьні і недахопы ў яго працы і даючы прапановы для выпраўленьчя працы. Акт абсьледаваньня пасылаецца ў Цэнтральны Камітэт пры Н.К. Сацыяльнага Забесьпячэньня.

6. Пры абсьледаваньні таго, ці іншага камітэту старшыню акруговага камітэту інструктуе і накіроўвае працу ня толькі на словах, але і на справе паказвае як весьці тую ці іншую работу (напрыклад: складаньне плянаў працы, каштарысаў, справаздач, вядзеньне кніг рахунководзтва і г. д.).

7. Старшыня акруговага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі трымае сувязь з акруговымі савецкімі, партыйнымі, капярацыйнымі і грамадзкімі органамі для палепшаньня працы камітэтаў акругі і калі гэта будзе патрэбна для інтарэсаў працы камітэтаў, удзельнічае ў пазычковым камітэце акруговага аддзяленьня Беларускага Сельска-Гаспадарчага Банку і ў падатковай камісіі.

8. Узгадняе ўсе пытаньні ў тым ці іншым раёне па арганізацыйных або гаспадарчых справах з савецкімі і партыйнымі органамі, плянавымі камісіямі, капярацыйнымі і грамадзкімі арганізацыямі, паведамляючы аб выніках раённаму і Цэнтральнаму камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

9. Па высунутых на мясцох тых ці іншых агульных і прынцыповых пытаньнях, патрабуючых агульнага вырашэньня, падае свае меркаваньні вусна або ў пісьмовай форме ў Цэнтральны Камітэт.

10. Па даручэньні Цэнтральнага Камітэту склікае нарады старшынь раённых камітэтаў і пленумы акруговага камітэту для абмеркаваньня насьпеўшых важных пытаньняў працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

11. Па даручэньні нарады старшынь раённых камітэтаў, пленуму акруговага камітэту або Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстаў Узаемадапамогі заключае дагаворы з акруговымі гаспадарчымі, капярацыйнымі і грамадзкімі арганізацыямі па справах раённых камітэтаў.

12. Пэрыадычна, калі зьбіраецца многа важных пытаньняў у працы камітэтаў, якія патрабуюць агульнага вырашэньня, або калі яго выкліча Цэнтральны Камітэт, робіць даклады на пасяджэньні прэзыдыуму Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі.

13. У працэсе працы выяўляе актыў камітэтаў узаемадапамогі і робіць ва ўстаноўленым парадку захады да падбору працаздольных старшынь раённых камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі
пры Н. К. Сацыяльнага Забесьпячэньня БССР **Л. Адзінцоў**.

Адказны Сакратар Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі
пры Н. К. Сацыяльнага Забесьпячэньня БССР **П. Стрыкаў.**

25 мая 1927 г.
№ 5.

## 17. Да пытаньня аб разьвіцьці жыльлёвага будаўніцтва *).

Жыльлёвая цесната—гэта зло, якое адчуваецца ва ўсіх гарадох Саюзу ССР. На зьнішчэньне гэтага зла даўно ўжо зьвернута ўвага, і як агульнасаюзным заканадаўствам, так і заканадаўствам паасобных саюзных рэспублік устаноўлен шэраг мерапрыемстваў для разьвіцьця жыльлёвага, галоўным чынам, рабоча-жыльлёвага будаўніцтва.

Да ліку такіх мерапрыемстваў трэба аднесьці і ўсе законы выдадзеныя ў разьвіцьцё асноўных 71—84 арт. арт. Грамадзянскага Кодэксу, аб праве забудоўкі.

Грамадзянскі Кодэкс БССР, у частцы якая тычыцца права забудоўкі, некалькі адстае ад заканадаўства, датычнай таго самага прадмету, у РСФСР і УССР.

Калегія Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР, якая рабіла шырокае кантрольна-арыентовачнае абсьледаваньне будаўнічай справы ў БССР, адзначыла невыстарчальнае разьвіцьцё нашага заканадаўства па гэтым пытаньні і ў дадатку да пратаколу № 47 за 30-га лістапада 1926 году адзначыла наступныя пытаньні, якія патрабуюць заканадаўчага афармленьня:

1) права заняцьця пад халодныя і жылыя будынкі вольных месц на вучастках, ня цалкам забудаваных, і права ўласьнікаў гэтых вучасткаў на пабудаваньне на іх новых жылых і халодных будынкаў;

2) пераход ва ўласнасьць забудоўшчыка пабудаваных ім будынкаў пасьля сканчэньня тэрміну дагавору аб забудоўцы;

3) афармленьне правоў на будынкі пабудаваныя пасьля Кастрычнікавай Рэвалюцыі да ўвядзеньня Грамадзянскага Кодэксу;

4) выданьне новага будаўнічага статуту дапасавальна да сучасных умоў будаўніцтва.

З прыведзеных палажэньняў Калегіі Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі асабліва цікавымі зьяўляюцца першыя два.

Першае з гэтых пытаньняў у нас зусім неразьвіта, заканадаўства-ж дзьвюх суседніх з намі саюзных рэспублік: РСФСР і УССР па даным пытаньні ідуць рознымі шляхамі.

РСФСР і ў новых законах аб праве забудоўкі (гл., напрыклад, С. У. РСФСР, 1927 г., № 7, ст. 57) і ў інструкцыях цьвёрда праводзіць той прынцып, што права забудоўкі можа ўзьнікнуць толькі на падставе дагавору з камунальным аддзелам або замяняючым яго органам. Адсюль такі вывад, што і ўласьнік немуніцыпалізаванага будынку, калі ён хоча зрабіць дабудоўку або надбудоўку свайго дому, а таксама пабудаваць на замацаваным за яго домам сядзібным вучастку новы жылы або няжылы будынак, павінен заключыць з камунальным аддзелам або замяняючым яго органам забудоўны дагавор. Такое вырашэньне пытаньня на першы по-

*) У парадку абмеркаваньня.

гляд здаецца вельмі ўдалым, бо пры такім парадку рэчаў і немуніцыпалізаваныя будынкі павінны паступова перайсьці на становішча будынкаў, пабудаваных на падставе правіл аб праве забудоўкі, запісаных ў Грамадзянскім Кодэксе.

Аднак, жыцьцё паказвае, што, ня гледзячы на льготы забудоўшчыкам, уласьнікі немуніцыпалізаваных дамоў мала скарытаюцца магчымасьцю павялічыць свае ўладаньне праз перавод яго ў становішча забудаванага на падставе дагавору з камунальным аддзелам. А гэта, у сваю чаргу, адмоўна адбіваецца на разьвіцьці жыльлёвага будаўніцтва.

Зусім інача́й тое самае пытаньне вырашана ў УССР, у якой жыльлёвы крызіс назіраецца асабліва востра.

Пастановаю ВУЦВК і СНК УССР за 4-га лістапада 1925 году (С. У. УССР, 1925 г., № 96, ст. 525) забудоўшчыкам і жыльцом новых, перабудаваных, дабудаваных або надбудаваных дамоў дадзен цэлы шэраг льгот. Артыкул-жа дванаццаты таго самага закону ўстанаўляе такую норму:

„Уласьнікі немуніцыпалізаваных будынкаў маюць права дабудоўваць, перабудоўваць і надбудоўваць свае будынкі, а таксама будаваць на праве ўласнасьці новыя будынкі без абмежаваньня іх кошту на вучастках немуніціпалізаваных будынкаў, без заключэньня якіх-небудзь дагавораў з органамі камунальнай гаспадаркі“. Пры гэтым на забудаваную плошчу яны атрымоўваюць усе льготы і правы забудоўшчыкаў па дагавору, калі-ж новая жыльлёвая плошча ня менш 50 проц. плошчы старога будынку, то гэтыя правы пашыраюцца і на ўсе будынкі данага вучастку.

Такім чынам тое пытаньне, якое Калегіяю Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР пастаўлена першым, на Украіне вырашана як ня трэба лепш, для ўласьнікаў немуніцыпалізаваных будынкаў. Такое вырашэньне трэба прызнаць удалым, бо прыведзеныя вышэй нормы заахвочваюць уласьнікаў немуніцыпалізаваных будынкаў да будаўнічай дзейнасьці, у чым так цяпер зацікаўлена дзяржава. Што тычыцца пытаньня аб тым, што пры такім парадку рэчаў можа значна павялічыцца колькасьць і разьмеры немуніцыпалізаваных і значыцца належачых прыватным асобам на праве ўласнасьці будынкаў, то наўрад ці гэта можна прызнаць небясьпечным з пункту гледжаньня гаспадарчай і палітычнай мэтазгоднасьці. Справа ў тым, што, скасаваўшы раз назаўсёды права прыватнай уласнасьці на зямлю, Савецкая дзяржава не касуе права ўласнасьці на будынкі, уносячы толькі ў гэта права тыя ці іншыя абмежаваньні. Не супярэчачы духу нашага заканадаўства, такое вырашэньне пытаньня прынятнае і з чыста эканамічнага пункту гледжаньня,—для дзяржавы вельмі нявыгадна атрымоўваць з выплатай кошту тыя дробныя будынкі, якія ў цяперашні час будуюцца на праве забудоўкі. Вялікая колькасьць такіх дробных дамоў у руках аддзелаў камунальнай гаспадаркі будзе патрабаваць, напэўна, ад гэтых аддзелаў вялікіх клапот і непасільных выдаткаў на кіраваньне і падтрыманьне такіх будынкаў. З гэтай прычыны прыходзіцца ня толькі прыхільна адносіцца да пашырэньня прыватнаўласьніцкіх будынкаў, але ставіць на чарзе, як гэта і зрабіла Калегія Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, пытаньне аб тым, каб пры забудоўцы на падставе забудоўнага дагавору з камунальным аддзелам будынак пасьля сканчэньня тэрміну дагавору пераходзіў ва ўласнасьць забудоўшчыка.

Пастаўленыя вышэй пытаньні, як гэта ўжо адзначана Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР, ня могуць быць цалкам вырашаны на падставе дзеючых правіл аб праве забудоўкі, чаму і павінны быць зроблены захады да папаўненьня нашага заканадаўства.

Пастаўленыя Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі пытаньні вельмі важны і актуальны. Распрацоўка адпаведных заканапраэктаў патрабуе старыннага вывучэньня пытаньня. Вельмі пажадана, каб па гэтым пытаньні выказаліся акруговыя выканаўчыя камітэты. Для гэтага Народнаму Камісарыяту Ўнутраных Спраў, які, напэўна, возьмецца за складаньне адпаведнага заканапраэкту, трэба скласьці і разаслаць на месцы анкету з шэрагам пытаньняў.

Што тычыцца гэтай кароткай нататкі (заметкі), то яе мэтаю зьяўляецца толькі пастаноўка самага пытаньня і жаданьне выклікаць работнікаў аддзелаў камунальнай гаспадаркі, і юрыстаў на выяўленьне свае думкі.

Пры гэтым зьвяртаем увагу, што думка работнікаў на мясцох па пастаўленым вышэй пытаньні будзе мець асаблівае значэньне, калі яны будуць падмацаваны лічбавым матар'ялам па наступных пытаньнях:

1) ці многа ў гарадох падаецца просьбаў аб заключэньні дагавораў на забудоўку?

2) які пераважны тып дамоў (вялікія ці малыя, так званыя спажыгныя) зьяўляецца прадметам дагавораў аб праве забудоўкі (параўнальны лік тых і іншых)?

3) магчымыя спосабы скарыстаньня камунальнымі аддзеламі дамоў, якія пераходзяць да іх ад забудоўшчыкаў пасьля сканчэньня тэрміну дагавору або ў парадку арт. 82 Грам. Кодэксу, у паасобку, як можна скарыстаць аднакватэрныя і нават на адзін пакой (бо ёсьць-жа і такія) дамы і якая гаспадарчая каштоўнасьць апошніх для камунальных аддзелаў?

4) колькасьць заяваў уласьнікаў немуніцыпалізаваных будынкаў аб дазволе зрабіць надбудоўку, дабудоўку, прыбудоўку або перабудоўку іх дамоў з мэтаю павялічэньня жыльлёвай плошчы, а таксама аб дазволе будаваць новыя дамы на вольнай часьці замацаванага за немуніцыпалізаваным домам вучастку зямлі?

**Б. Ватацы.**

17 мая 1927 г.

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**